


*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА

№ 13 (23) • 15—21 МАЯ 1991 • Штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 10 кап. (па падпісцы — 5 кап.)




## Поступ тыдня

Як вядома, патрабаванні ўдзельнікаў забастовак, што прайшлі нядаўна ў рэспубліцы, аб скліканні нечарговай сесіі беларускага парламента і разглядзе на ёй палітычных пытанняў не былі задаволены. Аднак іх прапановы і запыты ўсё ж намечана разгледзець на чацвёртай сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі, адкрыццё якой прызначана на 21 мая г. г. Сярод праблем, што будуць разгледжаны, ёсць і наступныя: аб дэпартызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і арганізацый, аб уласнасці КПСС — КПБ, аб праходжанні асобамі, якія прызваны ва Узброеныя сілы СССР, воінскай службы на тэрыторыі Беларускай ССР і іншыя.

* * *

Ёсць звесткі пра тое, што 1100-тонная «накрыўка», якая ахоўвае чарнобыльскі рэактар, нахілілася на пятнаццаць градусаў. Па словах начальніка тэхнічнага аддзела атамнай электрастанцыі Вячаслава Груздзева, калі яна рухне, адбудзецца «страшэнная катастрофа». Цяпер прастора пад «накрыўкай» запаўняецца бетонам.

* * *

На рэспубліканскай настаўніцкай канферэнцыі, якая адбылася нядаўна, абмеркаваны праблемы нацыянальнага адраджэння і народнай адукацыі, створана Асацыяцыя беларускіх настаўнікаў, абрана каардынацыйная рада на чале з народным дэпутатам Беларусі Лявонам Баршчэўскім.

* * *

Савет Міністраў БССР забараніў продаж кніг па свабодных цэнах. Аднак супрацоўнікі Дзяржкамвыда рэспублікі лічаць, што ва ўмовах, калі паперу даводзіцца купляць па тых жа свабодных цэнах, пакупнікі ад забароны нічога не выйграюць.

* * *

Расчыніла дзверы новае памяшканне бібліятэкі імя Якуба Коласа ў мікрараёне Серабранка горада Мінска. Гэта будзе бібліятэка сямейнага чытання. У ёй мяркуецца праводзіць сустрэчы з дзеячамі культуры, вядомымі людзьмі рэспублікі.

* * *

Дзесяткі старажытных ікон, якія маюць вялікую гістарычную і духоўную каштоўнасць, многія царкоўныя рэчы вернуты законным гаспадарам. Яны канфіскаваны работнікамі Камітэта дзяржбяспекі і міліцыі ў злачынцаў пры спробе перавезці дарагія рэліквіі за мяжу.



## Да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча

*...за восем — дзевяць год свайго праўдзівага існавання наша паэзія прайшла ўсе шляхі.., каторыя паэзія еўрапейская пратаптывала болей ста год.*

Максім БАГДАНОВІЧ.



### 3. «МАЦІ-КРАІНА»

Імкненне да мастацкай дасканаласці (літаратурнай) яшчэ больш выразна бачым на свядомым артыстызме Максіма Багдановіча. З маладых гадоў далучаны да скарбніц сусветнай культуры, дакладна азнаёмлены з гісторыяй еўрапейскай паэзіі, ён памайстэрску «апранае» беларускае слова ў класічныя і мадэрныя формы, каб на фактах, якія сцвярджаюць, што «мужыцкая» мова гучыць гэтак жа сама выдатна ў метрах Петраркі ці Верлена, даказаць магчымасці беларускай літаратуры.

Вацлаў ЖЫДЛІЦКІ.

*Вялікіх гарадоў у чэшскіх землях вельмі многа... Першае месца сярод іх займае Прага, «Злата Прага», як яе ўрачыста велічаюць.*

Максім БАГДАНОВІЧ.

Выпуск падрыхтаваў Сяргей ПАНІЗНІК.



НА ЗДЫМКУ: на радзіме Францішка Багушэвіча.

Фота В. ЖЫЛІНА.

## Пошта рэдактара

*Пісьмо гэтае прыйшло з Украіны, з горада Кузняцоўска. Мы ў рэдакцыі ведалі, што «Наша слова» чытаюць і за межамі рэспублікі, але землякі. Тут сітуацыя трохі іншая. Аўтар ліста, аказваецца, проста была знаёмая з беларусамі далёка ад тых мясцін, дзе жыве цяпер, але гэтая акалічнасць стала, відаць, адной з прычын, чаму карэспандэнтка падпісалася на наш штотыднёвік. Мала таго, цяпер, чытаючы яго, нават вырашыла напісаць у рэдакцыю, каб падзяліцца сваімі трывогамі і меркаваннямі. Ліст падаём у перакладзе з рускай мовы.*

*«Добры дзень! Выпісала ваш штотыднёвік на 1991 год. Хоць некаторыя словы не магу зразумець, але артыкулы ўважліва чытаю і разумею. Штотыднёвік чакаю з нецярплівасцю. Толькі б там не было пра шавінізм.*

*Шчыра прызнаюся, мне незразумела, як гэта людзі, жывучы на Беларусі, тым больш па нацыянальнасці беларусы, не прывіваюць у сям'і любоў да роднай мовы. Я жыла ў Сярэдняй Азіі і мела там зносіны з сем'ямі, дзе дзеці свабодна і не саромячыся дома гаварылі па-беларуску. У нашым горадзе я не чую беларускай мовы, тут мы ўсе (відаць, прыезджыя? — Э. Я.) як «акупанты» лічымся. Вось нават у дні правядзення рэферэндуму ў кожную паштовую скрыню былі ўкладзены па 1—2 лістоўкі адпаведнага зместу.*

*Канечне, кожная нацыянальнасць — святое, але вось, як зразумець наступнае. Бацька — рускі, напрыклад, маці — украінка, а дзіцёнак гаворыць: «Як я ненавіджу рускія песні!» Ну, а калі добрая музыка, выканаўца, але гэта, напрыклад, італьянскае? Выходзіць, мы — «акупанты», якія размаўляюць па-руску на Украіне, а ў Беларусь прыедзем — хто будзем?*

*Мой бацька — украінец, мама — руская, але мае родзічы па бацькоўскай лініі кажуць — я «кацапка». Зразумей тут — хто ёсць хто!*

*А мне здаецца, у жыцці галоўнае — не чысціня «пароды», а чысціня чалавечых адносін.*

*З павагаю Буевіч Людміла ДЗМІТРЫЕЎНА».*

### ПРА САМАЕ ГАЛОЎНАЕ

Разам з пісьмом чытачка прыслала адну з лістовак, якія знайшла ў паштовай скрынцы напярэдадні знакамітага рэферэндуму. З яе зместам чытачоў, мяркую, варта пазнаёміць таксама. Але пачну з самага галоўнага.

Шаноўная Людміла Змітраўна, вось перачытаў яшчэ раз Ваш ліст і магу сказаць упэўнена: калі б Вы апынуліся на Беларусі, то ў хуткім часе сталі б тут сваёй, а не «акупанткай». Бо адчуваецца ў вас прыродная добразычлівасць, спагада да людзей і імкненне да паразумення і згоды. Ды які ж гэта нармальны чалавек не пажадаў бы займець такую суседку! Вы і па-беларуску, упэўнены, загаварылі б хутчэй, чым некаторыя нашы абарыгены, якія да таго ўжо прагнуць «інтэрнацыяналізму», што гатовыя наогул са скуры вылузнуцца, каб толькі дагадзіць высокаму «цэнтральнаму» начальству. Адзін такі нават дзеля гэтага ўласную ўнучку панёс у Гомелі на першамайскую дэманстрацыю ў дні чарнобыльскага атамнага выбуху і сваім «подзвігам» потым прынародна хваліўся.

А што тычыцца «чысціні крыві», дык была яна толькі ў Адама і Евы. А вось адкуль у чалавецтва той «крыві» аказалася ажно чатыры групы, трэба яшчэ наогул разбірацца. Існуе адна вельмі доказная, на маю думку, тэорыя на гэты конт, але пра яе, можа, іншым разам. Як і пра нацыянальнасці наогул. Тэма вялікая і, па ўсяму бачна, па-ранейшаму патрабуе грунтоўнага разбору. Цяпер адно скажу: суседзі — не міліцыя і ў нармальных умовах чужым пашпартам не цікавяцца. Тым больш не адшукваюць там пятую графу (а ў цывілізаваных краінах наогул указваецца толькі грамадзянства, а не нацыянальнасць). Не адшукваюць, калі не мераюцца — каторы з іх «большы брат», а хто — «меншы» і ў дадатак якому «лепшую» культуру прынеслі. Ды яшчэ і на адной мове размаўляюць. І тыя ж украінцы, думаю, ні пра якіх «кацапаў» і «маскалёў» гутаркі нават не заводзілі б жартам, каб былі поўнасцю нацыянальна незалежнымі, суверэннымі, не адчувалі таго, што цяпер называюць «імперскімі абдымкамі вечнай дружбы». Вось і вымушаны тыя, хто адчуў канчатковую нацыянальную пагібель, разносіць па паштовых скрынях свае лістоўкі на шэрай абгортачнай паперы (а звярніце ўвагу, на якой выдатнай паперы і ў якіх друкарнях шматмільённа тыражаваліся агіткі за Саюз!), каб пераканаць ачмурэлых ад татальнай прапаганды суайчыннікаў, што змогуць яны пры сваіх рэсурсах пражыць незалежна. Пра «акупантаў» я ў лістоўцы нічога не знайшоў, а самы «моцны» выраз прыводжу ў арыгінале: «Ганьба і презирство зрадникам України!». Як сведчыць гісторыя, самая гэта вялікая каштоўнасць — нацыянальная незалежнасць. Ва ўсякім разе — адчуванне яе народам. І тыя дзяржаўныя кіраўнікі, якія аддаюць яе некаму за каўбасу ці па нейкай іншай меркантыльнай прычыне, як бы тое ні выглядала спакусліва сёння, рыхтуюць уласным нашчадкам і суродзічам незайздросную будучыню.

А яшчэ добрасуседства мацуецца ўзаемнай падтрымкай і, канечне, пастаянствам. Калі ж хто паводзіць сябе як часовы жыхар, тут падазронасці, а то і варажнечы ў пэўных выпадках не пазбегнуць. На гэты конт існуе такі яўрэйскі, як называюць гэтую «серыю», анекдот, прыведзены чэхаславацкім літаратарам Янам Марцінцам у ягонай кніжцы «Сустрэў Кон Рабіновіча». Дык вось гэты Кон (у нашай айчыннай інтэрпрэтацыі ён звычайна завецца чамусьці Хаімам) марыць увесь час вярнуцца на зямлю сваіх продкаў, але ў Ізраілі трэба ваяваць з палесцінцамі. У Празе яму таксама не соладка, бо пачынаюць даймаць антысеміты. Аднойчы ён усё ж едзе ў Ізраіль. Праз паўгода страляніна і палесцінская варажнеча яму абрыдлі, і Кон вяртаецца ў Прагу, а там усё тое ж, толькі ў дадатак цяпер эміграцыяй папракаюць. Праз шэсць месяцаў Кон зноў аб'яўляецца ў Тэль-Авіве. І так некалькі разоў. «Паслухай, Кон,— нарэшце спыталі ў яго аднойчы,— ты ездзіш туды-сюды, то ў Прагу, то ў Тэль-Авіў. Дык дзе ж ты ўсё-такі па-сапраўднаму шчаслівы?» «У дарозе»,— прызнаўся Кон.

Аднак кожная дарога спрадвеку вядзе ці ў паселішча, ці на пагост. Трэцяга не дадзена, нават калі гэта дарога на касмадром.

З павагай Эрнэст ЯЛУГІН.

# «ТАРАШКЕВІЦА»? «НАРКОМАЎКА»? «СКАРЫНІЦА»?.. «ЛАЦІНКА»?

## Галоўнае — нацыянальная дамоўленасць

У «Нашым слове» № 8 змешчаны ліст спадара А. Шастакова пад назовам «Я — за лацінку».

Дык я — за статус кво, гэта значыць за кірыліцу. Чаму? Кірыліца мае трывалыя карані ў гісторыі беларускага пісьменства, і не варта кідацца ў лацінку, ратуючыся ад асіміляцыі. Не кірыліца таму віною, а іншыя прычыны.

Паміж гукам і яго адлюстраваннем у выглядзе знака няма аніякай генетычнай сувязі — японцы і кітайцы чытаюць іерогліфы, па сутнасці, умоўныя малюнкі; знак «5» зразумелы кожнаму еўрапейцу, а вымаўляецца беларусам і кітайцам па-рознаму. Вядома, знакавая сістэма можа аблягчаць правільнае маўленне, але і тут ёсць мяжа. Няма аніводнай мовы, дзе б арфаграфія была люстраным адбіткам маўлення (хіба мо санскрыт). Дзеля гэтага і створана асобая сістэма знакаў, што называецца транскрыпцыяй, але ўжываецца яна толькі ў навучальных і навуковых мэтах. Таму кожная арфаграфічная рэформа мае свае межы. Што ж датычыць славутага маўлення дыктараў БТ, то тут не віна арфаграфіі. Мова, якой яны карыстаюцца, для некаторых з іх, відаць, не родная, а службовая, казённая, патрэбная ім на 10—15 хвілін у дзень. Тэксты для іх таксама перакладаюцца не заўсёды пісьменнымі перакладчыкамі, якія прафесійна адносяцца да сваёй справы не хочуць. Вось таму і маўленне з экрана іншым разам, што хоць вушы затыкай.

Таму найпершая задача — у вывучэнні мовы, у пастаноўцы правільнага маўлення. Школьныя ж падручнікі аніяк не адпавядаюць новым рэаліям, яны поўныя заданняў, што патрабуюць апрыёрных ведаў вучняў і разлічаны на механічнае запамінанне, а не на жывы ўжытак. Наогул, сістэма навучання беларускай мове патрабуе карэннага перагляду і асэнсавання.

М. К. БУСЕЛ.
Гомельская вобласць.

## Не цурацца лацінкі

У коле моўных пытанняў час ад часу гучаць заклікі да лацінскага варыянта беларускага пісьма з меншай альбо большай дозай аргументацыі «за» ці «супраць». Ёсць і набытак у нашай кніжнай спадчыне на лацініцы. Успомнім тую ж «Дудку» Мацея Бурачка, што прыйшла да нас нядаўна. Памятаю сваё пачуццё, калі трымаў гэтую кніжку ў руках — быццам наша і не наша, але пераважала шчымлівая думка аб першароднай чысціні вытокаў... На жаль, сёння чытаць Мацея ў арыгінале ніхто не вучыць, хаця патрэба ў той навуцы навідавоку. І яшчэ слова ў абарону арыгінала. Што ні кажыце, а ў лацініцы наш Мацей мае асаблівыя водар і прыцягальнасць, бо ў ёй і глыбіня часу, і лёс нашага слова... Гэтакага ж адчування не магу пазбыцца, чытаючы лісты Каліноўскага.

З усяго просіцца выснова, што беларускасць мае з лацінкаю карані роднасці — не чужая яна нам, як не чужая Беларусь Еўропе, дзе квітнела некалі наша дзяржаўнасць.

У палеміцы «за» — «супраць» не будзем жа цурацца лацінкі як чужынкі, а мо паспрабуем завесці з ёю дружбу. Таму прапаную адкрыць у «Нашым слове» «лацінкіну» старонку, дзе побач з навукай (што і як правільна чытаць і пісаць) друкаваліся б творы нашых класікаў, напісаныя лацінкаю, а таксама лісты чытачоў наконт яе.

Не думаю, што такі «эксперымент» стане звужаць кола прыхільнікаў беларускасці. А мо здарыцца наадварот?!

Хацелася б ведаць погляды не толькі рэдакцыі, але і чытачоў на маю прапанову. Ад сябе яшчэ дадам: чым багацейшыя формы культуры нацыі, тым здаравейшы дух народа. Дружба з лацінкаю ў добрай меры пазбавіць нас і ад пачуцця пэўнай непаўнацэннасці ў адносінах да Еўропы, куды б мы хацелі патроху рухацца,ўсёй нашай беларускай сям'ёю.

І апошняе. «Наша слова», на маю думку, не проста газета для аднадумцаў, гэта, найперш, поле духоўнай еднасці. І рознасць думак на старонках газеты не бяда, а багацце.

Алесь МЕМУС,
мастак.
г. Віцебск.

## Я — за фанетычны прынцып

Шаноўная рэдакцыя!

Па пашпарту я рускі, але мне вельмі баліць, што беларуская мова апынулася ў такім бядотным становішчы. І вось чаму.

Маці мая нарадзілася ў вёсцы Турычына Невельскага раёна Пскоўскай вобласці. Калі ёй было 18 гадоў, яна прыехала ў Мурманск, дзе праз 5 гадоў нарадзіўся я. У пару майго дзяцінства і юнацтва мы з малодшай сястрой і маці амаль кожнае лета праводзілі на яе радзіме ў сваякоў. Ужо тады я не мог не прыкмеціць, што гаварылі там не так, як «у нас». Гаворка гэтая была для мяне непарыўна звязана з навакольнай прыродай, якая так адрозніваецца ад паўночнай, і з іншымі прыемнымі ўражаннямі вясковага жыцця. Аднойчы (я тады, здаецца, скончыў быў трэці клас) трапіла ў мае рукі дзіцячая кніжка — казка на беларускай мове (пра вожыка, які пыхкаў у агародзе), і я, спрабуючы яе чытаць, са здзіўленнем адкрыў, што ў гэтай мове вельмі многа падобнага да таго, што мне даводзілася чуць у гаворцы матчыных сваякоў і іншых жыхароў тых мясцін. Потым ужо я зацікавіўся гэтым усур'ёз і высветліў, што фанетыка той гаворкі амаль цалкам беларуская (за выключэннем [р']). І што словы «агрест», «адонак», «бульба», «бурак», «вужака», «вячэраць», «даволі», «досыць», «дробненькій», «ён», «ёсць», «золка», «капец», «малец», «няхай», «паречкі», «парсюк», «пільна», «пуня», «сажалка», «снедаць», «табе», «хустка», «цябе», «якей», «ідыёма», «кричаць рятунку», ужыванне прыназоўнікаў накшталт «вышей за...» і некаторыя іншыя асаблівасці гэтай гаворкі (прыкладам, «гаворіць», «злый сабака», «з Мішам», «нясець», «хадзі сюды») таксама ад беларускай мовы. На жаль, зараз так гавораць толькі людзі старэйшага ўзросту.

А ў 1980 годзе я з брашуры «Невель» серыі «Города Псковской области» (Петров Г. В. Невель.— Л., 1980) даведаўся, што той самы Емянец (зараз вёска), дзе я столькі разоў гасцяваў у свайго дзядзькі, быў некалі горадам (згадваецца ў летапісе 1185 года), уладаннем полацкага князя, а тыя доўгія пагоркі, якія я бачыў уласнымі вачыма, з'яўляюцца рэшткамі насыпаў і крапасных валоў. У наваколлі вёсак Турычына і Дамінікова знойдзена больш за 40 крывіцкіх курганоў, таму і я напалову крывіч (бацька мой з Архангельскай вобласці, нашчадак ноўгарадскіх першапраходцаў у зямлі «Чуди Заволокской»).

А цяпер некалькі слоў аб беларускім правапісе. Увогуле ён мне падабаецца, але яму бракуе паслядоўнасці ў адлюстраванні фанетычных з'яў. Прыкладам, не магу зразумець, чаму пішацца «няверны», але — «не веру», «вар'яцкі», але — «гарадскі». Натуральней было б «ня веру» (бо адмоўная часціца таксама пераднаціскная), «гарацкі» (бо ў абодвух словах суфікс у зліцці з коранем гучыць аднолькава). Я наогул абедзвюма рукамі за фанетычны прынцып у правапісе (аж да «вырвадзь зуп», «прынёз да дому» і да т.п.) за выключэннем, мабыць, нагрувашчвання мяккіх знакаў дзе дыякрытычных (дарэчы, апошняе асабліва тычыцца лацінкі). І «невыразнасць фармальна-сэнсавых адносін» («Тарашкевіца»? «Наркомаўка»? «Скарыніца»?..» — «НС», № 7, 1991) не можа быць сур'ёзным довадам супраць такога прынцыпу. Прыкладам, Беларуска-рускі слоўнік пад рэдакцыяй Крапівы дае 5 слоў «каса», 4 словы «ключ». Прыгадайце таксама «гады», «каты», «дамы». Усё гэта не перашкаджае правільна разумець напісанае. Таксама не было б вялікай цяжкасці для разумення і дзве «каскі» — цяперашнія «казка» і «каска». Дарэчы, у сербскахарвацкай мове, у якой ужываецца «фанетычны прынцып напісання», памяншальныя формы слоў «нос» і «нож» пішуцца аднолькава — «ношче», а не «ношче» і «ножче», але сербы ды харваты, пэўна, не блытаюць адно з другім.'

Што тычыцца правапісу іншамоўных слоў, то лічу, што і тут трэба прытрымлівацца вымаўлення мовы, з якой яны пазычаны. Прыкладам, не «Аруэл», а «Оруэл» (націск на першым складзе), не «Дзінглі», а «Дынглі». Праўда, іншы раз цяжка бывае вызначыць, які варыянт дакладней перадае вымаўленне мовы-крыніцы. Гэта тычыцца, у прыватнасці, перадачы паўмяккага сярэднееўрапейскага [l] і англійскага [W]. Зразумела, тыя скажэнні, якія сталі традыцыяй, выпраўляць не варта, але трэба не дапускаць новых. І яшчэ: навошта капіраваць рускі правапіс — «Нью-Йорк», «Йемен», «Йагурт»? Павінна быць «Н'ю-Ерк», «Емен», «Ягурт».

Лічу, трэба было б адкрыць у «Нашым слове» нешта накшталт даведачнага бюро па пытаннях мовы.

Ігар ЛЯПІН.

## Пяройдзем на сапраўдную мову

Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Нашага слова». Мне вельмі падабаецца ваша газета, яна робіць вельмі карысную справу. Кажуць, што народ, які занядбаў сваё мінулае, не мае і будучыні. Дык вось, вы вяртаеце беларускаму народу яго будучыню. Па вашай газеце ў мяне амаль няма заўваг, акрамя хіба што мовы, на якой яна друкуецца. Лічу, што даўно пара адкінуць старыя догмы аб збліжэнні беларускай ды рускай моў і перайсці на сапраўдную беларускую мову з мяккімі знакамі, як гэта робіцца ў газеце «Свабода».

Алесь ГУРЫНОВІЧ,
г. Мінск.

## З рэдакцыйнай пошты

*Мы ўжо паведамлялі, што 2-га красавіка ў Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы адкрыўся новы факультэт — беларускай філалогіі і культуры. Хаця факультэт існуе ад нядаўняга, ужо ўзніклі ў ягоным жыцці пэўныя праблемы. Пра гэта ідзе гаворка ў ніжэй змешчанай нататцы.*

*Аляксей ПЯТКЕВІЧ,*
*старшыня Гродзенскай гарадской Рады ТБМ імя Францішка Скарыны.*

# СПАДЗЯЁМСЯ...

У актавай зале Гродзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, дзе праходзіла ўрачыстая сябрына выкладчыкаў і студэнтаў, з нагоды адкрыцця новага факультэта было выказана шмат усцешных і высокіх слоў. Прарэктар універсітэта Сяргей Габрусевіч, малады дэкан новага факультэта Ігар Жук, загадчык кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Аляксандр Баршчэўскі, кіраўнік скарынаўскага культурна-навуковага цэнтра ў Мінску Адам Мальдзіс і іншыя гаварылі пра нацыянальнае адраджэнне беларусаў і звязвалі шмат надзей з факультэтам, што будзе рыхтаваць спецыялістаў у галіне роднай мовы, літаратуры і культуры, надзей на пашырэнне і абнаўленне беларускага руху, аздараўленне нашай культуры, духоўнасці нашай нацыі.

На самай справе, пакаленні за пакаленнямі выпускаліся з універсітэтаў і педінстытутаў рэспублікі знаўцы беларускай мовы і літаратуры, а сапраўдных спецыялістаў і, галоўнае, ахвярных чыннікаў беларускай нацыянальнай ідэі было сярод іх надта мала. Вельмі ўжо адрэгуляванна працавала ідэалагічная сістэма будаўнікоў светлай будучыні, якая нацыянальную мову і літаратуру ў ВНУ замуроўвала магутнымі блокамі марксісцкіх псеўданавук, што падмацоўваліся ваеннай і медыцынскай падрыхтоўкай і планавым камуністычным выхаваннем. Калі не заціралася тут адразу дапытлівая і чыстая душа, якая прагнула пазнання нацыянальных каштоўнасцей, то валаклі яе неўзабаве ў мясцовую ўправу КДБ, і апрацаваны там у духу звышінтэрнацыяналізму і класавай пільнасці аматар разумнага, добрага, вечнага спяшаўся, апусціўшы галаву, зубрыць ваяўнічы атэізм ці пастановы з'ездаў і пленумаў КПСС.

Дык не дзіўна, што зараз ускладаюцца вялікія надзеі на беларускамоўны факультэт, які мае да таго ж спецыялізацыю па нацыянальнай культуры. Але не спяшайся, шаноўны чытач...

Пасля параду актавай залы з яго воплескамі, усмешкамі, кветкамі, выявай бел-чырвона-белага сцяга і «Пагоні» на задніку святочнай сцэны універсітэцкія навукоўцы і госці сабраліся за «круглым сталом», каб перамовіцца пра будучыню новага факультэта і праблемы адраджэння нашай культуры. І тут высветлілася, што не ўсё так проста і ясна наконт лёсу чарговага універсітэцкага «дзіцяці». У самім універсітэце і за яго сценамі ёсць сілы, якім вельмі не падабаецца профіль факультэта. Маўляў, гэта што ж робіцца? Нацыянальнай культуры захацелі? Нацыяналістаў гадаваць будуць. Не дапусцім. І стараюцца не дапусціць. Якім чынам? Выпрабаваным спосабам камандавання. Не зважаючы на пазіцыі кафедр, дэканата, Рады факультэта. І вось ужо ў аб'яве пра новы набор ва універсітэт («Гродненская правда», 12.IV.1991) спецыяльнасці новага факультэта абазначаны так: «беларуская мова і літаратура, сусветная і айчынная культура» (трэба меркаваць, што айчынная, г. зн. савецкая). Некаторыя не бачаць тут бяды, сцвярджаючы, што гэта ўсяго толькі даніна афіцыйнай наменклатуры спецыяльнасцей, якія фармулююцца «цэнтрам», і лічаць, што пасля ўсё ўдакладніцца, утрасецца. Як жа нам шкодзіла заўсёды наша хваленая давернівасць і памяркоўнасць! Жыццё добра пацвердзіла, што ўдакладняць у такім выпадку не спяшаюцца, а часцей і не збіраюцца. Сусветная культура тут — траянскі конь, якога выпускаюць на ніву новага факультэта. Дый ці па сілах факультэту такая спецыяльнасць (4-я), такі размах, ад якога патыхае змрочнай памяцці грандыёзнымі пражэктамі.

Пакуль жа факультэт беларускай філалогіі і культуры жыве нялёгкімі рабочымі турботамі. Тут дзейнічаюць ужо кафедры беларускай мовы, беларускай літаратуры, беларускай культуры. Рыхтуецца пачынаць сваю дарогу кафедра беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства. Цяжка з кадрамі па нашых спецыяльнасцях, асабліва па беларускай культуры (калі гэтых цяжкасцей не было?). Будзем ствараць навукова-даследчую лабараторыю па гісторыі культуры свайго рэгіёна, творчыя майстэрні, студыі.

Спадзяёмся на добрае.

## СКАЖУ ПРА СВАІХ ДЗЯЦЕЙ

Сёння стараватым людзям непрыемна чуць ад нашай моладзі чужую гаворку. Моладзь адцуралася сваёй мовы. Не хачу спасылацца на чужых людзей. Скажу пра сваіх дзяцей і ўнукаў-мінчукоў. Яны таксама забыліся на мову сваіх родных бацькоў. Апраўдваюцца тым, што, маўляў, вакол усе гавораць па-руску. Яно выходзіць так, што, калі голуб патрапіў у варанне, дык яму трэба каркаць варонаю.

М. РОЎБА.
Нясвіжскі раён.

*Чыталі?*

## Мяжа цярпення

Напярэдадні чарнобыльскай гадавіны быў запісаны і затым змешчаны ў газеце «Демократическая Россия» дыялог двух народных дэпутатаў СССР, двух публіцыстаў — украінца Ю. Шчэрбака, аўтара дакументальнай аповесці «Чарнобыль», і беларуса А. Адамовіча, чыя душа, як піша газета, таксама абпалена чарнобыльскім болем.

У дыялогу ўзнімаецца пытанне аб неабходнасці ўстанавіць, хто аддаў загад засакрэціць усю інфармацыю пра катастрофу, для чаго патрэбна падымаць пратаколы Палітбюро, каб «запытаць гэтых паноў, якія там засядалі, запытаць і Прэзідэнта: якія рашэнні тады былі прыняты?» У той жа час удзельнікі размовы выказалі здзіўленне, як можна так бесчалавечна адносіцца да свайго народа. І не толькі ў час катастрофы, але і сёння, калі на забруджаных землях, з радыяцыяй у сто кюры, працягваюць жыць вяскоўцы.

А. Адамовіч, у прыватнасці, паставіў пытанне і перад беларускім народам: дакуль ён можа быць такім цярплівым? Дакуль над яго цярпеннем, якое і цяпер паэтызуецца ў літаратуры, будуць так здзекавацца? Бо размова ідзе ўжо не аб гібелі нейкай часткі насельніцтва, а поўнай нацыянальнай катастрофе.

Аляксандра САКОВІЧ

# ПРА ТОЕ, ШТО Ў СЭРЦЫ*

З маленства прагнула я пабачыць далёкія, нязнаныя краіны. Ды ніколі, нават у сваіх лепшых летуценнях, не ўяўляла, што аднойчы здолею апынуцца за акіянам, застануся тут назаўсёды, адчую сябе роўнай сярод роўных.

Першыя пяць год эміграцыі я прабыла ў Нью-Йорку. Адразу давялося на маленькай фабрыцы складаць для засолу ў шкляныя банкі агуркі, тады на другой — пакаваць для крамаў здобныя булкі ды торты. Ашчадзіла трохі грошай і пайшла вучыцца ў Кембрыджскую школу бізнесу. Магла б узяць патрэбны мне навучальны курс у каледжы, але спачатку моцна асцерагалася хваліцца савецкім універсітэцкім дыпломам...

...Тэй парою ў Нью-Йорку існавала ўжо ладная беларуская грамада. Мы ладзілі сустрэчы, канцэрты, святкавалі свае нацыянальныя святы. Праўда, найбольш у тыя гады спраўлялі вяселлі. Жаніліся, выходзілі замуж маладыя. Яны спяшаліся ў новым краі абзавесціся сям'ёю. Ішлі да шлюбу і старэйшыя, якія шмат адпакутавалі, страцілі свае сем'і. Я таксама пабралася з Яўгенам Каханоўскім. З ім пасяліліся ў Кліўлендзе, дзе пражылі шчасліва ўжо 31 год.

Кліўленд — вялікае індустрыяльнае места. Яно прыгарнула нас да сябе настала, бо тут склалася людная беларуская калонія, пабудавана беларуская праваслаўная царква, паўстаў беларуска-амерыканскі цэнтр Полацак.

Наш маляўнічы Полацак мае больш за 9 гектараў лугу і лесу. На ўзгорку стаіць аднапавярховы цагляны будынак, дзе жывуць галоўныя арганізатары і нязменныя кіраўнікі гэтага прывабнага беларускага кута ў новым свеце. Вакол дома — стромкія хвоі, зялёны луг. Адсюль уніз віецца сцежка праз луг да азёрка, да іншых грамадскіх будынкаў, да лесу. Азёрка, невялікае і чыстае, адлюстроўвае ў сабе сіняе неба, раскідзістыя магутныя клёны, белы двухпавярховы дом. Глядзіш на чароўны малюнак зверху, і здаецца ён табе казачна прыгожым.

У Полацаку я часты госць. Наогул, гасцей тут заўсёды досыць: свае людзі любяць збірацца разам. Але найбольшае свята для нас усіх — дні вялікай сустрэчы, калі едуць сюды беларусы з розных штатаў Амерыкі, з Канады, лятуць з Еўропы, з Аўстраліі, з Польшчы. У тыя дні ўсе мы чуемся ўзнятымі. Цешымся пабачыць знаёмых людзей. У памяці ўсплываюць падзеі, перажытыя разам у часе вайны, звязаўшыя нас назаўсёды сяброўствам. На сустрэчы мастацкія выступы маладых, народжаных ужо ў Амерыцы, з народнымі спевамі і танцамі не толькі захапляюць, не толькі выклікаюць замілаванне да нашае багатае нацыянальнае спадчыны, але ўзмацняюць веру, што Беларусь жыве і будзе жыць.

Усё ж самае мілае для мяне тут, у Кліўлендзе,— гэта мая ўласная сям'я, мой муж. У нас з ім поўная хатняя згода, агульныя жаданні і мары. Мы абое стараемся па меры нашых сілаў творча працаваць у галіне беларускай літаратуры і гісторыі.

Я пачала пісаць яшчэ жывучы ў Нью-Йорку. Праф. Янка Станкевіч (рэдактар «Ведаў») і др. Вітаўт Тумаш (рэдактар «Запісаў») ахвотна друкавалі мае першыя спробы пяра. Яны па-сяброўску падбадзёрылі, падтрымалі, надалі мне патрэбнае перакананне, што я павінна працягваць пісаць.

Нярэдка чытачы пытаюцца пра некаторыя мае апавяданні і аповесці: «Гэта вы пра сябе расказалі? Гэта аўтабіяграфія?» Не. Хоць мушу зазначыць, што аўтабіяграфічны элемент да некаторай ступені знайшоў адбітак у маіх творах. Сюжэты, у якіх б'ецца пульс і кроў рэальнага жыцця, лягчэй тварыць тады, калі сам перажыў, сам зблізку нагледзеў. Свае першыя публікацыі я не падпісвала маім сапраўдным імем і прозвішчам — Іна Рытар, а псеўданімам Аляксандра Саковіч.

Я нарадзілася 14(27) снежня 1906 г. у месце Адэсе, на Украіне. Бацькі мае — беларусы. Яны абое паходзілі з мястэчка Ярэмічы, што разлеглася на левым беразе Нёмана, насупраць Налібоцкае пушчы. У Ярэмічах мой бацька да старое дзедавае хаты дабудаваў другую палову — дачу для нас. Да першае сусветнае вайны маці штогод на летнія школьныя канікулы ехала туды з дзецьмі. Яна не любіла паўднёвае, спякотнае Адэсы. Ёй здаваліся найлепшымі ў свеце прахалодны гушчар з хваёвага бору, росныя сенажаці і лугі, спакойныя воды рэчак і азёр. Замілаваннем да роднага кута, уласцівым ёй, яна надзяліла і нас, сваіх дзяцей, пасяліла ў нас веру, што тут, дзе карэнне нашага роду, заўжды знойдзеш гаючы душу і сэрца адпачынак.

У нашай сям'і было чацвёра дзяцей. Тры сястры і брат. Калі мяне ў шэсць гадоў аддалі вучыцца ў малодшы падрыхтоўчы клас жаночае гімназіі, старэйшая сястра Ліда была ў гэтай жа гімназіі ўжо ў восьмым класе.

Тады насунулася першая сусветная вайна, за ёю — расейская рэвалюцыя, грамадзянская вайна, голад. Пакінулі навуку і бацькаў кут старэйшыя сёстры і брат. Яны пайшлі працаваць у школы-інтэрнаты, арганізаваныя для адэскіх дзяцей-беларусаў. Я адна засталася з бацькамі.

У былым, так званым «дзіцячым пакоі» з'явілася чорная бляшаная печка — «буржуйка» з трубою праз увесь пакой. Майму бацьку, службоўцу на чыгунцы, пашанцавала раздабыць для «буржуйкі» крыху каменнага вугалю. На распал яго патрабаваліся трэскі, а іх тады набыць было амаль немагчыма. Вакол Адэсы — стэпы ды Чорнае мора. Лясоў няма. Час ад часу, патайкі, чыгуначнікі разбіралі на трэскі таварныя вагоны. За гэта, калі лавілі, расстрэльвалі. Рызыкуючы жыццём, прыносіў дадому гэтыя трэскі і тата.

У нашай хаце заўсёды мелася шмат кніжак. Маці любіла чытаць, не шкадавала грошай на кніжкі. Навучыла і мяне з маленства любіць і шанаваць добрую кніжку. На жаль, у тыя галодныя і халодныя часы мусіла яна, калі не ставала трэсак, ахвяроўваць якуюсь кніжку на распал.

Цікава, што частыя змены ўладаў, чужаземныя войскі на вуліцах места, страляніна сярод ночы, выбухі бомбаў, вобыскі па хатах, арышты і нават голад — усё ўспрымалася тады мною як штосьці непазбежнае. Сваіх школьных сяброў, Адэсу, Чорнае мора я моцна любіла.

Улетку 1921 года старэйшая сястра з групаю адэскіх беларусаў паехала на працу ў Менск. У тым жа годзе, позна ўвосень, з галоднае Адэсы яна забрала мяне да сябе.

Менск спаткаў мяне холадам. Белымі, заснежанымі стаялі дрэвы, дамы, вуліцы. Нязвыклы для мяне мароз не вельмі прыемна шчыпаў шчокі і вушы. Пальцы на руках і нагах хутка дубянелі. Нават у сястры мне спачатку здалося няўтульна. Сумавала па бацьках. Аднак такі настрой трываў коратка, бо мне пашчасціла трапіць у асяроддзе выдатных беларусаў.

Сястра працавала інспектарам дзіцячых прытулкаў. У адным з іх мела пакой. Праз сад ад нашага дома мясціўся дзіцячы садок, дзе загадчыцай была добрая, заўсёды ласкавая цётка Уладзя, жонка Янкі Купалы. Купалы жылі тады пры садку. Там жа меў сабе пакой і Змітрок Бядуля.

У тую пару блізкай сяброўкай мае сястры была Юлія Бібіла, будучы вядомы беларускі бібліёграф. Светлы вобраз гэтае маладое сардэчнае жанчыны застаўся са мною назаўсёды. Калі я пайшла вучыцца, яна шмат дапамагала мне з беларускаю моваю, якую, трэба прызнацца, я не зусім добра ведала. Дапамагала і іншым.

Памятаю, праф. Аляксандр Савіч, выкладчык гісторыі ў Беларускім педагагічным тэхнікуме, даручыў мне зрабіць рэферат аб творчасці расейскага пісьменніка-філосафа XVIII-га стагоддзя А. М. Радзішчава. Я старанна перачытала ў бібліятэцы масу матэрыялу, масу перапісала і разгубілася: не ведала, з чаго пачынаць, чым скончыць. У момант мае роспачы з рэфератам зайшла да нас Ю. Бібіла. Яна не пашкадавала свайго часу, засталася са мною на добрую гадзіну, перагледзела мае выпіскі, параіла, што найбольш трэба падкрэсліць, што абмінуць, якое зрабіць заканчэнне. Дзякуючы ёй рэферат меў надзвычайны поспех. Мой тагачасны аднакурснік па тэхнікуме шаснаццацігадовы, імпульсіўны Андрэй Александровіч, будучы «вядучы пралетарскі паэт», пасля рэферата прапанаваў ушанаваць памяць Радзішчава ўставаннем і хвілінаю маўчання. «Нібы на жалобным мітынгу»,— падумала я і глянула на прафесара. У яговых вачах прамільгнула ўсмешка, але ён падняўся з крэсла, а за ім і ўсе студэнты.

Аднойчы Ю. Бібіла расказала мне пра Кастуся Каліноўскага, крэўнага ёй па маці, пра ягонае змаганне. Мужная постаць К. Каліноўскага моцна зацікавіла мяне, абудзіла гордасць звацца беларускай, жаданне аддаць свае сілы і здольнасці для бацькаўшчыны. Як? Набыць веды з гісторыі Беларусі, напісаць гістарычны раман пра К. Каліноўскага і ягоных сяброў-паплечнікаў. Юнацкія мроі збыліся не цалкам. Ва універсітэце я студыявала гісторыю, а вось раман напісаць не змагла.

Мая альма матэр — Беларускі дзяржаўны універсітэт, дзе я правучылася 4 гады, зрабіў вялізны ўплыў на мой светапогляд, пакінуў найдаражэйшыя ўспаміны. Там я спаткалася і пасябравала з «Раднёю» — так жартам празвалі сябе сведамыя беларусы-студэнты. У сваім асяроддзі «Радня» не баялася выказваць асабістыя пагляды ў палітычных пытаннях, не хавалася з нацыянальнымі марамі і імкненнямі. Сярод «Радні» была не толькі моладзь, але і старэйшыя гадамі «дзядзькі» — ветэраны першай сусветнай ці грамадзянскай вайны, а часта і ўдзельнікі руху за незалежнасць Беларусі. Не з свае волі яны згубілі гады навукі і прыйшлі давучвацца. Амаль усе яны, каб мець мажлівасць вучыцца ва універсітэце, мусілі працаваць, бо мелі ўжо сем'і, якія ім трэба было ўтрымліваць.

«Радню» можна было знайсці на ўсіх факультэтах БДУ, але найбольш яе было на сацыяльна-гістарычным аддзяленні педфака. На гэтым аддзяленні лекцыі чыталі высокакваліфікаваныя, вядомыя навукоўцы. Кожны студэнт-гісторык, які студыяваў у БДУ ў дваццатыя гады, можа з гонарам адзначыць, што ён быў вучнем праф. Мітрафана Доўнар-Запольскага, праф. Усевалада Ігнатоўскага, праф. Уладзіміра Пічэты. Неабходна далучыць да гэтых слаўных іменаў і маладога таленавітага праф. Васіля Дружчыца, які распачаў сваю навуковую кар'еру ў нашым універсітэце дацэнтам. «Радня» любіла працаваць у галіне беларускай гісторыі на семінарах праф. В. Дружчыца, любіла самога маладога навукоўца. Яна часта запрашала яго сфатаграфавацца разам на памяць. Адно з такіх фота якімсь цудам зберaглося ў мяне, не згубілася на працягу майго складанага, нялёгкага вандравання па свеце. На ім маю сяброўку Броню Паўлоўскую і мяне, як малодшых з «Радні», пасадзілі ў цэнтры, побач з прафесарам.

У другой палове дваццатых гадоў сітуацыя на гістарычным аддзяленні педфака пачала мяняцца ў неспрыяльны для незалежнае беларускае навукі бок. У 1926-ым годзе ўлады загадалі праф. М. Доўнар-Запольскаму пакінуць Менск і Беларусь. Не шанцавала і студэнтам. Прыкладам, мне, якая ніколі не была ні камсамолкай, ні партыйнай, пасля заканчэння універсітэта прапанавалі выкладаць не грамадазнаўства (так тады зваўся курс гісторыі ў школах), а мову і літаратуру, на што я мусіла згадзіцца. Наогул, ад канца дваццатых гадоў на гістарычнае аддзяленне дапускаліся пераважна партыйцы ці камсамольцы. «Радня» там знікла.

Я ўжо працавала выкладчыцай на рабфаку пры БДУ, калі надышоў пакутлівы 1930-ты год, а за ім нешчаслівая дэкада, адна з самых трагічных у летапісе нашае нацыі. У тую дэкаду брутальна была знішчана вялікая колькасць беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, паэтаў, грамадскіх дзеячаў. Сярод беларускае грамады панавала пачуццё няпэўнасці ў заўтрашнім дні. Арыштоўваўся не толькі той, хто аднойчы знаходзіўся ў апазіцыі да камунізму ці да камуністычнай улады, але кожны, хто ўважаўся ў стане выявіць супраціў. Тых, каго пакінулі на волі, прымушалі выступаць з пакаяннымі лістамі, з асудам свае папярэдняе нацыянальнае дзейнасці, з паклёпамі на блізкіх сяброў. Відаць, пад прымусам Змітрок Бядуля напісаў раман «Язэп Крушынскі». Заўсёды разважлівы, заўсёды ветлівы да людзей З. Бядуля ў гэтым рамане фальшыва зганіў амаль усіх выдатных беларусаў, надзяліў іх адмоўнымі рысамі. Не ашчадзіў, найбольш ад усіх абразіў свайго сябра Я. Купалу, ягоную жонку, ягоных сваякоў. Ці дараваў яму Я. Купала? Казалі, што дараваў, толькі не хутка. Сам Я. Купала не згадзіўся адразу сябе «таптаць», зрабіў харакіры. Праф. Ігнатоўскі застрэліўся.

Усё, што адбывалася, не толькі ўражала, але і раніла. Для мяне асабіста Менск апусцеў. Дамы стаялі на старых месцах, людзі хадзілі па вуліцах, ды сярод іх амаль не засталося нікога з універсітэцкай «Радні», нікога з крэўных. Міхайлу Грамыку, майго швагра, асудзілі на ссылку. Сястра з дзецьмі паехала за ім.

Улетку 1930-га года я выйшла замуж. Мой муж, Дамінік, як і я, нарадзіўся ў Адэсе. Як і я, прыехаў у Менск у 1921-ым годзе. Мы абое любілі спорт, спартовыя гульні. На гэтым грунце пасябравалі. Паходзіў ён з польскае сям'і, быў унукам паўстанца 1863—64 гадоў, сынам прафесійнага рэвалюцыянера-партыйца ад 1905-га года, сам камсамолец. Беларускае нацыянальнае пытанне яго мала кранала. Часта, дзе я асуджала палітыку Савецкае ўлады, ён шукаў ёй апраўданне. Увогуле, яго найбольш цікавіла не палітыка, а фізіка, космас, тэхнічныя навукі. Ён скончыў тэхнічны інстытут у Маскве. Там застаўся працаваць інжынерам-канструктарам у навукова-даследчым інстытуце. Я не супярэчыла, паехала да яго. Менск без маіх крэўных, без маіх сяброў больш мяне не вабіў.

У Маскве я жыла адно сям'ёй. Гадуючы дзяцей, пазнала не толькі ўцеху, але і матчына гора, калі памёр наш першынец — сын Леанард.

Мінулі гады. Клопаты і радасці нашае маладое сям'і, навуковыя поспехі мужа паступова пачалі засланяць перажытыя ў трыццатым годзе страхі. Я нават пачала спадзявацца, што ў Савецкім Саюзе можна быць хаця б у сям'і шчаслівай. Горка памылілася. Нахлынула «яжоўшчына» і захліснула сваёй безлітаснай хваляю нас. Мужа арыштавалі, пасадзілі ў Таганскую турму, збілі да непрытомнасці, абвінавацілі ў «контррэвалюцыйнай дзейнасці», вывезлі ў канцэнтрацыйны лагер на Калыму. Чула, што праз некалькі гадоў беззаконнага зняволення яго рэабілітавалі. Мажліва, і цяпер ён знайшоў апраўданне здзеку над сабою. Я — не.

Без мужа ў Маскве я адчула сябе адзінокай, безабароннай. На маіх руках засталася двухгадовая дачка Іна. Пагроза, што мяне таксама могуць арыштаваць, а дачку забраць у дзіцячы прытулак, кроіла душу і розум. Тады, у момант роспачы, нарадзілася няўтольнае жаданне пры першае нагодзе вярнуцца назад на Беларусь, вярнуцца ў Ярэмічы, да дарагіх з маленства мясцінаў. Нагода прыйшла ў часе другой сусветнай вайны.

Быў месяц студзень, калі я, трымаючы за руку сваю малую Іну, пераступіла браму роднага кута. Пасля першае сусветнае вайны Ярэмічы засталіся на польскім баку, зрабіліся для нас недасягальнымі. Тое, што я змагла вярнуцца сюды разам са сваім дзіцём, бязмерна цешыла. Пачуццё не толькі радасці, а і гордасці захлынала. Так, гордасці. І ўсё цяжкое, што выпала на маю долю ў апошнія гады, нейк палягчэла, нібы адышло.

Было радасна зноў спаткацца з сваякамі. Цешыла мажлівасць ісці працаваць у школу-сямігодку, не марнаваць дарма часу.

Пражылі мы з дачкою там амаль цэлы год. І сёння перад вачыма зіхацяць у сонцы празрыстая вада Нёмана. Іна з сяброўкаю цягаюць каменьчыкі з мелкага дна, будуюць штосьці на беразе. Сіняе неба, сачыстая зеляніна поплаву. У мястэчку няма ні немцаў, ні паліцыі, ні партызанаў. Спакой навокала, спакой на душы.

На нашу бяду ў канцы 1942-га года Ярэмічы, маючы ў блізкім суседстве Налібоцкую пушчу, апынуліся ў партызанскім раёне. Людзі пачалі пакідаць мястэчка. Падалася і я з дачкою далей ад небяспекі ў Навагрудак. Уладзілася працаваць у Навагрудскай настаўніцкай семінарыі.

Ярэмічы ў тым часе гарэлі тры разы: адзін раз іх палілі немцы, два разы — партызаны. За трэцім разам спалілі і маю хату. Вярнуліся пасля велікодных канікулаў семінарысты з суседняга мястэчка Турэц з навіною: «Спадарыня настаўніца! У Лазараву суботу ваш «палац» спалілі партызаны». Студэнты, схільныя да жартаў, заўсёды маю хату называлі «палацам». Але для мяне гэтая вестка прынесла глыбокі боль.

Параскідаў лёс нашу сям'ю па свеце. Бацькі памерлі далёка ад Ярэмічаў. Далёка ад іх засталіся на жыццё сем'і сясцёр і брата. Мая дачка памерла ў Нямеччыне. Я жыву ў Амерыцы. І няма ў нас цяпер месца на зямлі, якое завецца бацькавым гняздом **.

Публікацыя Б. САЧАНКІ.

* Друкуецца з нязначнымі скарачэннямі.

** Аляксандра Саковіч. У пошуках праўды. БІНІМ, Нью-Йорк — Кліўленд, 1986.

Аляксандра Саковіч (яна ж — Іна Рытар, Іна Каханоўская) — малодшая сястра жонкі пісьменніка і вучонага М. Грамыкі. Нарадзілася 14 (27) снежня 1906 г. у Адэсе. Жыла ў Мінску, Маскве. Закончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт.

З 1944 г. у Германіі, потым — у ЗША. Выдала кнігу прозы (апавяданні, аповесці) «У пошуках праўды» (Нью-Йорк — Кліўленд, 1986).

*Культура мовы*

Зьміцер САНЬКО

# Не кажы наўздагад, кладзі слова ў лад

*Летась у «Нашым слове» былі змешчаныя публікацыі З. Санько «Конь вырвецца — здагоніш, а слова вырвецца — не зловіш» (№3) і «Не тое кажы, што ведаеш, а тое, што дарэчы» (№ 6) — вынік ягоных пошукаў сярод беларускага фальклорнага матэрыялу адпаведнікаў да вядомых рускіх прыказак і прымавак.*

*Працягваем друкаваць руска-беларускі фразеалагічны слоўнік. Чытаючы яго, лішні раз пераконваешся, як засмечана наша мова, колькі нам усім яшчэ трэба працаваць, каб паказаць свету яе красу, каб яна заззяла ўсімі сваімі дыяментамі.*

Аршин с шапкой — *З вузел ростам; Кату па пяту; Жабе па калена; Курэц ад лапця*

Бабушкины сказки — *Плёткі старой цёткі; Забабоны старой жоны*

Баш на баш — *Галава на галаў; Цень на цень; Вуха на вуха*

Без задних ног — *Як пшаніцу прадаўшы; Як пасля кірмашу; Як маку наеўшыся*

Без роду и племени — *Без роду без пароду; Без роду і плоду; Ні свата ні брата*

Без царя в голове — *Клёку ў галаве не мае; Алею ў галаве мала; Ні за кол ні за цям*

Бояться как черт ладана — *Баяцца як чорт крыжа (як злога духа, як чорт грому)*

Бухать как в бездонную бочку — *Гаціць як у прорву; Валіць як у процьму; Таптаць як у бяздонны мех*

Валиться с ног — *Кулём падаць; Ледзьве ногі перастаўляць; Хоць ногі на плечы бяры*

Взять в толк — *На цям узяць; Да ладу ўзяць; Да галавы ўзяць*

Витать в облаках — *Аб нябескіх мігдалах думаць; Пра нябесныя ясноты марыць*

В мгновение ока — *Як вокам маргнуць; Як змаргнуць; На вокамгненні*

Во весь дух — *Чым дух; Што духу; Што моцы; Колькі змогі; Як ёсць духу*

В один присест — *За адным засёдам; За адным скрыпам; За адным разам*

Водой не разольешь — *І вада не размые; І цапом не развядзеш; Як у адной кашулі хрышчаныя*

Волосы становятся дыбом — *Шапка на галаве расце; Аж шапка паднялася; Нешта за каўнер бярэ*

Врет как сивый мерин — *Хлусіць як наняты; Хлусіць не падсяваючы; Брэша як лён чэша*

Всыпать горячих — *Дыхту даць; Гáрту даць; Бізуна ўліць; Уваліць як каню.*

В чем душа держится — *Кісялёвыя ногі; Жыццё на нітку павесіў; Хоць калочкам падапры*

Выеденного яйца (ломаного гроша) не стоит — *Высквáркі не варты; Гарэлага шэлега не дам*

Выкрасить да выбросить — *Узяць венік ды на сметнік; На лапату ды за хату*

Вынь да положь — *З калена вылямі; Хоць радзі, а падáй; Хоць дой быка, але дай малака*

Вытаращить глаза — *Вочы вырачыць (вылупіць, утаропіць); Бельмы выкаціць*

Гнуть свое — *Сваё правіць; На сваё наважваць; На свой капыл гнуць*

Давать стрекача — *Лататы даваць; Хадалá даваць; Цягу даваць*

Дать прикурить — *Па пер'і даць; Гароху засыпаць (троху); Салёнкі даць*

Длинный язык — *Язык з-за зубоў выбіваецца; Язык як дзедава пуга; Язык да пятаў*

Довести до ручки — *Да абухá дабіць; Да пухі дабіць; На пусты канец звесці*

Дурак набитый — *Чысты дурань; Дурны як кавальскія гарны; Дурны як варона*

Дурной глаз — *Ліхія (нялюдскія, паганыя) вочы; Нядобры на вочы; Лядашчыкава вока*

Живые мощи — *Як з крыжа зняты; Як здань з таго свету; Адно цень застаўся; Косці звоняць*

Заводить шуры-муры — *Залёты рабіць; Халяўкі смаліць*

Заглянуть в бутылку — *Чарку ўзяць; Шкло пабачыць; З шкляным богам сустрэцца*

Задать перцу — *Перцу усыпаць; Даць перцу з імберцам; Лою за скуру заліць*

Задирать нос — *Хохлікі дзерці; Лычык задзіраць; Нос высока несці*

Задним умом крепок — *Па часе розум мае; Розум прыходзе па шкодзе*

За копейку удавится — *За рубель жабу ў Вільню пагоніць; За шэлег у бажніцы плюне*

За семь верст киселя хлебать— *За лыжку яды сем вёрстаў хады; Дзеля адной ежкі сем міль пешкі*

Зуб на зуб не попадает — *Зуб зуба паганяе; Душа заходзіцца; Цыганскі пот праймае*

И в ус себе не дуть — *Не дбаць і не шманаць; Не гнуцца й не вярнуцца*

Изо дня в день — *Дзень пры дні; Што ў бога дзень; Па што дзень*

Из-под палки — *З прынукі; З прымусу; Як пад бізуном; Як на паншчыне*

И нашим и вашим — *Табе, божа, і табе, божа; Крышыць буракі на абодва бакі; І бога не гнявіць, і чорту дагадзіць*

Искры из глаз посыпались — *Семдзесят сем агнёў убачыў; Яскаркі з ваччу пасыпаліся*

Как в воду канул — *Прапаў як у ваду ўпаў; Прапала, і пырскаў не стала; Як кулём на дно; Як растаў*

Как в воду опущенный — *Як жыць не збіраецца; Як цела без душы; Ні сцяты ні павешаны*

Как мертвому припарка — *Як памерламу кадзіла; Як хваробе кашаль; Як хвароба з трасцаю*

Как на пожар — *Як жару (як агню) ўхапіўшы; Як падсмалены; Як рыцыны глынуўшы; Як бягунка падганяе*

Как резаный — *Як за язык пачэплены; Як на гвалт; Як на жывот; Нібы з яго скуру лупілі*

Как с луны свалился — *Як з дуба зваліўся;Як сёння з яйка вылупіўся; Быццам з неба спаў*

Как собаке пятая нога — *Як у мосце дзірка; Як пятае кола ў возе; Як сабаку другі хвост*

Как у Христа за пазухой — *Як за богам; Як у божым вушку; Як у бога за плячыма*

Кататься со смеху — *Ад смеху заходзіцца (залягацца, качацца); Покатам класціся*

Кишка кишке кукиш кажет — *Кішка з кішкаю сварыцца; Салаўі ў жываце спяваюць; Кішкі марша граюць*

Когда рак на горе свиснет — *Як воўк шчанём будзе і брахаць хвастом будзе; Як на далоні валасы парастуць*

Кот наплакал — *З жабіны прыгаршчы; З антонаву слязу; Зайцу на закуску; Як кату пад'есці*

Кричать не своим голосом — *Нема крычаць; Немым духам крычаць; Ліхім крыкам крычаць*

Куда ворон костей не заносил — *Дзе зязюлі не кукуюць; Дзе камар козы пасе; Дзе чорт хамуты не вешае*

Ломиться в открытую дверь — *За пусты мех біцца; Адамкнёныя дзверы адмыкаць*

Лязгать зубами — *Зубамі званіць; Дрыжыкі прадаваць; Дрыжма дрыжэць*

Мал мала меньше — *Адзін пад адным; Адно аднаго не нясе; Пад адзін струп*

Мастер на все руки — *Рукі на ўсе штукі; Усё гарыць у руках; І шавец, і кравец, і каваль, і стругаль*

Менять кукушку на ястреба — *Быка на індыка мяняць; Галубку на саву мяняць*

Мозги набекрень — *Мазгі без чэрапа; Кішкі ў галаве; Прусакі ў галаве*

Надулся как мышь на крупу — *Скрывіўся як серада на пятніцу; Надзьмуўся як вош на мароз*

Не в бровь, а в глаз — *Сказаў як уцяў; Як у сук улеплена; Секануў як крапівою*

Не видать как своих ушей — *Угледзець як сваю патыліцу; Убачыць як свіння неба*

Не ровен час — *Няўрокам кажучы; Не тут кажучы; Не пры нас казана; Не ў гэтай хаце спамінаючы*

Несолоно хлебавши — *Шылам пáтакі хапіўшы; Быўшы, быўшы дый ідзі завыўшы; З мілым ліхам*

Нет и в помине — *І зáваду няма; І згадкі няма; І знаку няма*

Ни богу свечка ни черту кочерга — *Ні богу свечка ні чорту галавешка; Ні людзям паказаць ні сабе паглядзець.*

Заканчэнне будзе.

## Ахвяраванні на Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны

| | |
|---|---|
| Я. Яжэвіч | 18 рублёў |
| Янка Брыль | 150 рублёў |
| М. Іванова | 15 рублёў |
| С. Путаў з Віцебска | 10 рублёў |
| У. Целяпух з Мазыра | 30 рублёў |
| Л. Шатаноўскі са Жлобіна | 25 рублёў |
| Часопіс «Голас часу» з Канады | 50 долараў |

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзякуе за ахвяраванні.

*АБ'ЯВЫ*

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

Паведамляем, што Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР, і за мяжой.

Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.

Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.

## Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

Нагадваем тым, хто не падпісаўся на газету Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, што гэта вы можаце зрабіць у арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Падпісацца можна на астатнія месяцы 1991 года. Індэкс выдання 74975. Кошт аднаго нумара па падпісцы — 5 капеек.

Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдакцыі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.

## ДА СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БЕЛАРУСІ

Дарагія беларусы ўсіх краёў! Без вашых допісаў «Наша слова» не здолее расказаць пра тое, чым жывяце вы далёка ад роднай Беларусі. Без нашай газеты вы не даведаецеся шмат чаго пра адраджэнне на Бацькаўшчыне.

Просім адгукнуцца ўсіх тых, хто хацеў бы сёлета атрымліваць «Наша слова», а таксама дасылаць нам артыкулы, інфармацыю, фотаздымкі.

*І смех і грэх*

## ДЫЯЛОГІ НА ВЯСКОВАЙ ЛАЎЦЫ





— На во табе, Алена, пару пакецікаў з помаччу.

— Якой помаччу?

— А сёння ў малітоўным доме давалі. Пасылка з Германіі прыйшла: мусіць, думаюць, што мы саўсім тут згалелі. Праўда, як спажываць, не ведаю: па-іхняму напісана.

— Узяла, дык думай!.. Бачыш! Дзе пчолка нарысована — у чай ці канпот сып. А дзе стручок зялёны — у суп ці падліву.

— А хто яго ведае, колькі тут сыпаць?

— Не мела баба клопату! Для запаху сып — у іх прыправа, кажуць, добрая. Ну, а калі што... больш, як адзін раз, не ашукаешся.

* * *

— Колькі ўжо гадоў замужам у вашым сяле, а да вашай Язвінкі ніяк не прывыкну: не рэчка, а лужына. Не тое, што чалавеку, гусяняці няма дзе скупнуцца. Адзін толькі гонар, што тут пачынаецца.

Во ля нашай вёскі Язвінка — о то красавіца: і шырокая, і глыбокая, рыбу — хоць рукамі лаві!

— Пахваліся-пахваліся! Затое мы ў Язвінцы ногі мыем, а вы там ваду п'яце.

* * *

— Еду я, гэта, людзечкі, на гарадскім аўтобусе, а тут кантралёрша наскочыла: «Прад'явіце білецікі!» — і да хлопца маладога. А ў таго, каб хоць у адным глазу сполах! «Нету»,— кажа.

Каб які бядак лядашчы, а то ўвесь у інпартным: касцюмчык аж блішчыць, часы, дальбог, японскія, і магнітафон пры ім раве. Што Соняю завуць... Касірша крычыць: «Штраф плаці 4 рублі!» А ён: «Нету у меня вашей мелочи!» — і ўсё тут. Ну і рэспуст найшоў на маладзёж! Ну і разбазыралі!

— А чаму не даць веры чалавеку? Мо і напраўду не меў нашых грошай — адну валюту...

Учула Любоў ЛАМЕКА.

## ПАЧУТАЕ «У ЛЯВОНА»

— Што такое ленінізм?

— Гэта, як сказаў венгерац Лукач,— марксізм у рашэннях чарговага бальшавіцкага пленума.

(80-я гады)

— Ці можа змяя вывіхнуць хрыбетнік?

— Можа, калі будзе паўзці згодна генеральнай лініі кампартыі.

(30-я гады)

— Ці можна пабудаваць сацыялізм у пустыні Сахара?

— Можна, але пяску не будзе.

(70-я гады)

## Забыўся фамілію

Пайшоў мужык к пану і кажа:

— Кланяўся пану пан... няхай яго!

— Ну як жа? Прыпомні.

— Дык неяк пахожа на птушку... а каб яго!

— Можа, пан Сініцкі?

— Не!

— Можа, Вронскі?.. Вераб'ёў?

— Не! Ён, здаецца, жыве ў Вырбанцы, а няхай яго!.. забыўся.

— А уж пэўна Вярбіцкі.

— Ага, ага! каб яго паветрыя! Ён, ён самы, пане.

— Ах, дурань! Як жа ты казаў, што пахожа на птушку, калі на дрэва?

— Усё роўна, пане, птушка і на дрэве садзіцца.

*Запісаў А. ГАНУС у канцы XIX ст.*



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 5.714 паасобнікаў. Заказ 2442. Індэкс 74975.